# Бацькаўшчына

Whiteruthenian Newspaper „The Fatherland“ Цана 1 н. м.

№ 2 17 лістапада 1947г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 1-ы


## АД РЭДАКЦЫІ Й ВЫДАВЕЦТВА

Рэдакцыя ветліва просіць чытачоў выбачыць за пэўную неакуратнасьць як у пунктуальнасьці выхаду, так і ў вонкавым афармаваньні газэты — вельмі прыкрыя для Рэдакцыі рэчы, што аказаліся аднак няўхільнымі для першых нумароў у выніку вялікіх цяжкасьцяў пры стварэньні друкарскае базы для нашага выданьня.

Асабліва просім выбачыць за вялікі лік карэктарскіх памылак у нашым №1, які мусіў выйсьці ў сьвет фактычна зусім без карэкты. Просім паправіць найбольш прыкрыя зь іх — у прозьвішчах некаторых асобаў, пададзеных у зацемцы «Ад Рэдакцыі й Выдавецтва». Замiж «Сп. Ю. Стэфанюку й сп. Л. Дражэвіч» трэба чытаць «сп. Ю. Стэфаніку й Л. Дражэўскай».

Рэдакцыя й Выдавецтва прыкладаюць усіх стараньняў, каб выданьне нашае газэты зрабіць нармальным ува ўсіх дачыненьнях.

## АПОШНІМ ЧАСАМ

* Першае паседжаньне «Камінформу» адбудзецца ў Белградзе ў часе ад 25 да 30 лістапада. У ім возьмуць удзел камуністычныя палітыкі: Тальяты зь Італіі, Дымітроў з Баўгарыі, Дуклё з Францыі, Готвальд із Чэхаславаччыны й іншыя.

* У Італіі, асабліва ў Нэапалі, Турыне, Міляне, адбываюцца вялікія камуністычныя дэманстрацыі й напады на правыя партыі. Ёсьць забітыя й параненыя. У некаторых месцах (у Рыме, Бары) абвешчаная генэральная забастоўка.

* У Францыі, у Марсэлі адбыліся крывавыя сутычкі між камуністымі й дэ-галістымі. Ёсьць забітыя й параненыя. Напружаньне трывае.

* Генэрал Дэ-Голь заявіў перад францускімі й замежнымі журналістымі, што ён уважае вайну за магчымую.

* Прэзыдэнт Труман прызначыў шасьцёх міністраў у Камітэт Бясьпекі, што на выпадак вайны мае быць дараднікам прэзыдэнта ў вайсковых, гаспадарскіх і цывільна-мабілізацыйных справах.

* Агульны Зьезд Задзіночаных Нацыяў ухваліў утварэньне г. зв. «малога зьезду» — запрапанаванага ЗША «Камітэту Міру й Бясьпекі» — бальшынёю 41 галасоў супраць 6. Наступны зьезд пастаноўлена склікаць у Эўропе.

* Індыя зьняла сваю кандыдатуру на месца нясталага сябра Рады Бясьпекі, вызваленага Польшчай, і на гэтым месцы канчальна зацьверджаная Украінская ССР.

* «Правда» абвесьціла, што Савецкі Саюз рыхтуе новую пяцігодку, якая паводля газэты «зробіць наш край найбагацейшым у сьвеце».

* Маскоўскі карэспандэнт парыскае газэты «Ль'Энтрансыжан» паведаміў, быццам саветы зрабілі ўдалую спробу з атомнай бомбай у Сыбіру, каля Іркуцку. Аднак, масава прадукаваць бомбу яны, быццам-бы, намеру ня маюць. Англельскія й амэрыканскія спэцыялістыя ставяцца да паведамленьня скептычна, ато й зусім адмоўна.

* Юлі Маніў, правадыр румынскае сялянскае партыі, засуджаны да пажыцьцёвае катаргі. Іншыя 18 абвінавачаных засуджаныя да турмы ад 1 да 25 год.

* Супраць правадыра вугорскае апазыцыі Зальтана Пфэйфэра, які кагадзе шчасьліва ўцёк замежы, на наступным тыдні пачынаецца судовы працэс.

* Для 20.000 перамяшчэнцаў- што неўзабаве прыбудуць у Канаду зь Нямеччыны, ужо падрыхтавана 15.000 працоўных месцаў.

## «ПАЛІТЫЧНАЯ БОМБА»

**Масква.** (Дэна-Рэйтар). — Да сьвята 30 угодкаў бальшавіцкае рэвалюцыі на масавым сходзе ў Маскве прамаўляў савецкі міністар замежных справаў Молатаў. Ён паведаміў, што савецкая гаспадарка ўжо за першых 9 месяцаў перавыканала назначаны на 1947 г. прамысловы плян і што ўраджай перавышае на 58% леташні. Молатаў пад «магутную авацыю» заявіў: «Ясна, што імпэрыялістычныя нацыі ўладжваюць новыя вайсковыя й морскія базы не дзеля мэтаў абароны, а дзеля нападу. Добра ведама, што ЗША абапіраюць сваю палітыку на валоданьні таямніцаю атомнае бомбы, хоць сяньня можна сказаць, што гэтае таямніцы больш няма».

Назаўтрае па прамове ў Маскве адбыўся вялікі вайсковы парад савецкае арміі, на якім мелі месца новыя прамовы супраць «капіталістычных ваенных падбухторшчыкаў».

Паведамленьне Молатава, быццам ЗША больш ня самі адны валодаюць таямніцаю атомнае бомбы, разглядаецца ў амэрыканскіх колах, як «блеф», што мае на мэце, як «палітычныя атомная бомба», зрабіць уплыў на агульны зьезд ЗН.

## КАНГРЭС ПЕРАПЫНЯЕ ВАКАЦЫІ...

Трэба, каб былі паважныя прычыны стрывожыць сяброў Амэрыканскага Кангрэсу ў часе іхных вакацыяў і склікаць на надзвычайную сэсію. Ад часу заснаваньня амэрыканскай канстытуцыі гэта здараецца цяпер усяго толькі 26-ы раз.

Але цяпер у прэзыдэнта Трумэна запраўды ёсьць вельмі паважныя прычыны. Як піша амэрыканскі друк, паміж ЗША і СССР цяпер ідзе сьць «халодная вайна», асноўны пункт якой — змаганьне за плян Маршала. Як ведама, плян дапамогі Эўропе, распрацоўваны цяпер зь ініцыятывы міністра замежных справаў ЗША Маршала, мае на мэце зьвярнуць Эўропу да жыцьця й спыніць распаўсюджаньне камуністычных уплываў.

Скліканьне надзвычайнай сэсіі Кангрэсу прэзыдэнт абгрунтоўвае каротка й выразна: чым далей ЗША будуць зацягваць разьвязаньне важных пытаньняў, тым больш аслабее вера Эўропы ў ЗША й тым ураджайнейшым зробіцца грунт для распаўсюджаньня камунізму.

Склікаючы 17 лістапада сёлета, замiж 3 студзеня 1948 г., сэсію Кангрэсу, у якім бальшыня месцаў належыць ужо супраціўнай, рэспубліканскай партыі, прэзыдэнт ЗША тым самым рызыкуе зрабіць гэтую сэсію арэнай для абмеркаваньня таксама й амэрыканскіх нутраных праблемаў, што можа мець уплыў на ход прэзыдэнцкіх выбараў у 1948 г.

Аднак, заклікі савецкіх галавароў да камуністых СССР і Эўропы даваць адпор «амэрыканскаму імпэрыялізму», бо ў вадваротным выпадку савецкі ўплыў наўдачу ці здолее пашырыцца за лінію Штэтын-Трыест — змушаюць прэзыдэнта ЗША не марудзіць із скліканьнем надзвычайнай сэсіі Кангрэсу й як мага барджджэй абмеркаваць пытаньне, як засьцерагчыся ад эканамічнага краху эўрапейскіх краёў і тым самым устояць супраць ціску таталітарнае сыстэмы. Калі выпусьціць магчымасьць цяпер, дык эўрапейскія краі назаўсёды страцяць здольнасьць прыйсьці нармальнага эканамічнага й палітычнага жыцьця, гэтак патрэбнага дзеля справы міру.

Між іншага, прэзыдэнт ЗША маніцца паставіць перад надзвычайнай сэсіяй Кангрэсу пытаньне пра дазвол на прыезд у ЗША перамяшчэнцам — ДП з Эўропы.

Паводля «Нью-Ёрк Таймс»

## НАШАЕ СТУДЭНЦТВА

Студэнцтва заўсёды было адным з найвартасьнейшых і найперадавейшых у нацыянальным сэньсе аддзелаў нашага грамадзтва. Найбольш хіба і найвыдатнейшых нашых дзеячоў і змагароў за Бацькаўшчыну якраз яшчэ студэнтамі ўваходзілі ў нацыянальны рух ды навет узначальвалі й вялі яго. Слаўны першадрукар і гуманісты Пранціш Скарына — ён-жа і першы нацыянальны студэнт; раньнія абуджальнікі народу — Чарноцкі, Марціноўскі, Чачот, Савіч; векапомны паўстанскі правадыр Кастусь Каліноўскі, што студэнтам прайшоў усю падрыхтоўную .рэвалюцыйную школу; бязьмежна адважны й самаахвярны Ігнат Грынявецкі — помсьнік за ўсіх прыдушаных і ашуканых; бязьменныя выдаўцы «Гоману» — першае ластаўкі гаспадарстваўска-самастойніцкае думкі; Ядвігін Ш., што ў арганізацыі першага студэнцкага гуртка ўпяршыню знайшоў сябе нацыянальна; браты Луцкевічы — піянэры нацыянальна-сацыяльнага адраджэньня, разам зь Іваноўскім, Хлябцэвічам, Пашкевічанкай-Цёткай; абуджаныя і ўсьведамленыя імі яшчэ на студэнцкіх лавах У. Ігнатоўскі, Б. Тарашкевіч, браты Цьвікевічы; Міхась Адзярыха — душа й галава зацятых маладых змагароў з бальшавізмам; нарэшце — маладыя арганізатары нацыянальнага супраціву нямецка-гітлераўскім акупантам, заснавальнікі «Беларускае Незалежніцкае Партыі», — увесь гэты даўгі і бадай бязупынны, а тут яшчэ далёка ня вычарпаны паток постацяў даволі красамоўна сьцьвярджае заслужонасьць студэнцтва перад нашым нацыянальным рухам.

З гэтага-ж патоку выплывае ды ў яго ўліваецца і сяньняшняе нашае эміграцыйнае студэнцтва. Агульны зьезд студэнтаў, што кагадзе, 1 й 2 лістапада сёлета адбыўся ў Марбургу, даволі прадэманстраваў гэтае нацыянальнае аблічча сучаснага нашага студэнцтва. Ён паказаў, што і сяньняшнія наступнікі Скарыны й Каліноўскага таксама нацыянальна думаюць, таксама нацыянальна прынцыповыя й нацыянальна актыўныя, а галоўна — нацыянальна перадавыя. Ён разьбіў пушчаныя кім-ня-кім пагалоскі, быццам цяперашніе студэнцтва — нейкае «нэўтральнае», «ні сьцюдзёнае, ні гарачае», а таксама і разьвеяў пэўныя недалёкія спадзяваньні, быццам яго можна перакупіць пернікам ці цукеркаю (або, больш пасучаснаму — цыгарэтаю...).

Аднак, зусім зразумела й нармальна, што сяньняшняе нашае студэнцтва мае й некаторыя свае асаблівасьці, якія, пры ўсёй ягонай ідэялёгічнай зьлітасьці із сваймі папярэднікамі і старэйшымі сучасьнікамі, тым-жа самым часам і выразьняюць яго ад іх, асабліва і найбольш можа у псыхалёгічнай роўніцы. Гэтыя асаблівасьці — пэўна-ж, вынік тае суровае жыцьцёвае школы, якую мусіла прайсьці ўся нашая сучасная моладзь, а асабліва моладзь эміграцыйная. Агульна бяручы, яны ў большай рэалістычнасьці й хіба практычнейшым сяньняшніх нашых студэнтаў супраць іхных папярэднікаў, пераважна няўпынёных (і непапраўных) рамантыкаў і лятуценьнікаў аж да донкіхоцтва. Гэта можна заўважыць ужо хоць-бы кінуўшы вокам на спэцыялізацыю нашых студэнтаў. Тымчасам, як ранейшае, асабліва «адраджэнцкае» студэнцтва разьмяркоўвалася найбольш між філёлёгіяй, філёзофіяй, гуманістыкай наагул, правам, часткава тэалёгіяй—сяньняшняе бадай вылучна кіруецца ў такія, вельмі-ж практычныя спэцыяльнасьці, як мэдыцына, тэхніка...

І ў самым людзкім тыпе асобы, найбольш пашыраным сярод студэнцтва (дый моладзі наагул) сяньня выяўляецца тая-ж агульная тэндэнцыя. Гэты тып найбольш зраўнаважаны й разважлівы, часам навет нагэтульк зраўнаважаны, што ў некаторых ягоных прадстаўнікоў

## АГУЛЬНЫ СТУДЭНЦКІ ЗЬЕЗД

1 і 2 лістапада сёлета ў Марбургу адбыўся Агульны Студэнцкі Зьезд Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне (ЦБСА). На зьезьдзе, апрача дэлегатаў ад паасобных студэнцкіх арганізацыяў на чужыне, было шмат гасьцей, прадстаўнікоў блізу ўсіх нашых нацыянальных асяродкаў у Нямеччыне, а таксама часткава й прадстаўнікі нашай эміграцыі зь іншых эўрапейскіх краёў.

Зьезд адчыніў старшыня датулешняга ўраду ЦБСА. Пасьля адсьпяваньня ўсімі нацыянальнага гімну, хор Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Марбургу памастацку выканаў «Пагоню», і зьезд пачаў сваю працу. Па выбарах прэзыдыюму, былі зачытаныя прывітальныя тэлеграмы ад нашых нацыянальных арганізацыяў у Нямеччыне, Ангельшчыне й Францыі, а таксама ад студэнцкіх арганізацыяў іншых нацыянальнасьцяў. Із справаздачы старшыні зь дзейнасьці ўраду ЦБСА за пэрыяд ад 16. 10. 46 да 31. 10 47 вынікла, што ўрад ЦБСА, дармо, што былі цяжкія абставіны працы, годна вывязаўся з накладзеных на яго абавязкаў. Асаблівую ўвагу ўрад ЦБСА ўзяў на матар'яльнае забясьпечаньне студэнцкае моладзі й часткава разьвязаў гэтую праблему, засноўваючы Студэнцкі Стыпэндыяльны Фонд. На працягу адных паўгодак удалося здабыць блізу 20.000 марак. 21 студэнт у Нямеччыне атрымаў у летнім сэмэстры 1947 г. стыпэндыю. Куды большая колькасьць здолее атрымаць матар'яльную запамогу ў зімовым сэмэстры 1947-48 г. Пры гэтым трэба падчыркнуць актыўнае супрацоўніцтва кіраўніцтва нашых нацыянальных асяродкаў і высокае зразуменьне сярод нашага грамадзянства на эміграцыі патрэбы матар'яльнай запамогі свайму студэнцтву і ўтрыманьня яго, як будучых змагароў за правы Народу. На вялікі жаль ураду ЦБСА, валютныя дачыненьні між Нямеччынай і іншымі краямі сталі на перашкодзе таму, каб падзяліцца здабытымі ахвярамі нашага грамадзянства зь сябрамі, якія змагаюцца з матар'яльнымі цяжкасьцямі ня менш за нас. Як відаць аднак із справаздачы, урад ЦБСА парупіўся і аб сваіх сяброх за межамі Нямеччыны, звараючыся з просьбаю да тамтэйшых беларускіх арганізацыяў, каб яны вялі там філіі ССФ. Але ня толькі ў гэтым выявілася праца ўраду ЦБСА. Ён імкнуўся ўтрымаць цесны кантакт з усімі нашымі нацыянальнымі арганізацыямі на чужыне, ён дапамагаў нашым студэнтам пры падаваньні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, здабываў навуковыя дапаможнікі, пасярэднічаў пры атрыманьні месца практыкі для студэнтаў мэдыкаў, навязаў і ўтрымаў добрыя дачыненьні із студэнцкімі арганізацыямі іншых нацыянальнасьцяў ды зрабіў шмат іншай карыснай працы, аб якой, трэба спадзявацца, будзе дакладнейшая справаздача ў студэнцкім часапісе. Справаздача Рэвізійнае Камісіі выказала сумленнасьць і дакладнасьць у працы ЦБСА. Пасьля кароткай дыскусіі зьезд прызнаў датулешняму ўраду абсалютюрыюм з падзякай. У справаздачах паасобных студэнцкіх арганізацыяў, сябраў ЦБСА, выказаўся вялізарны ўдзел нашых студэнтаў у грамадзкім жыцьці, а таксама годнае выкананьне імі сваіх абавязкаў, як рэпрэзэнтантаў нашае нацыі на чужыне.

Увечары ўсе ўдзельнікі зьезду былі запрошаныя на банкет, ладжаны з нагоды зьезду. На банкеце было каля 120 асобаў, з гэтага колькі прафэсароў Марбурскага унівэрсытэту, сярод іх — дэкан тэалёгічнага факультэту праф. Бэнц і прадстаўнікі чужынецкіх студэнцкіх арганізацыяў.

Па сьціплай вячэры выступіў хор Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня пад кіраўніцтвам студ. марбурскай кансэрваторыі Я. М. Апрача народных песьняў і твораў нашых ведамых кампазытараў, было выканана колькі нумароў кампазыцыі самога кіраўніка хору. Як хор і квартэт, так і сольныя выступы мясцовых салістак зрабілі прыемнае ўражаньне. Праф. Бэнц, вітаючы ўсіх ад імя марбурскага ўнівэрсытэту, выказаў жаль, што ня можа гаварыць пабеларуску, бо, каб пазнаць народ, трэба пазнаць ягоную мову, але тым ня менш ён рады з нагоды кантакту з прадстаўнікамі беларускага народу. Ад імя студэнтаў марбурскага ўнівэрсытэту прывітаў усіх старшыня АСТА ў Марбургу канд. мэд. Фальк.

На другі дзень нарадаў быў разгледжаны праект Статуту Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду пры ЦБСА, які па даўжэйшай дыскусіі й некаторых папраўках быў прыняты. Тады зьезд узяўся за выбары ўраду ЦБСА і ўправы ССФ. На старшыню новага ўраду быў выбраны датулешні старшыня. Зьезд скончыў сваю працу, заслухаўшы рэфэрат на тэму: «Студэнцтва й нацыянальны рух». Нясьціханныя воплескі былі довадам вялікага ўражаньня, якое зрабіў зачытаны рэфэрат. Зьезд быў скончаны адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

**Прытымбьтны**

---

лю, залавіўшы сям-там, як Ніна Змагарка ці 1. Дальняя раптам гавора аб сабе ў мужчынскім родзе, сягнуўшы ўспамінам у нашаніўскую традыцыю, і яшчэ далей, бяручы ўжо ад Багушэвічавых Мацея Бурачка і Сымона Рэўкі — пачынаеш чалавек заўважаць за ўсім гэтым — дадушы — усяго якую-небудзь пару здольных і працавітых рук, і можа адначасна навет — рук і пісьменьніцкіх-аўтарскіх, і рэдактарскіх, і перапісчыцкіх-«друкарскіх» . . . Ды ці можа гэта выклікаць якое-небудзь асуджэньне, ці хоць-бы ўсьмешку ў каго-колечы з нас, апрача хіба тых асабнёў-адзінак, што звыклі быць з дыгнітарскага ўзвышша дыплемаванага сябры «Саюзу савецкіх пісьменьнікаў» з пагардаю пазіраць на шэрую «рабселькораўскую» кабылку . . .

А паспрабуйце цяпер хоць із большага ўявіць сабе, колькі працы мусілі ўлажыць гэтыя рукі — запраўды залатыя рукі, колькі часу й вытрываласьці ў добра знаных усім лягерных абставінах (дый яшчэ-ж у чужым і няпрыхільным лягеры) гэта патрабавала? Бо рабілася-ж яно не ў цішыні кляшторных келятак даўлетных «перапісчыкаў», калі запраўды было, што «няма куды сьпяшыць» і «нячутна дзень праходзіць» . . .

Дарэчы, уся гэтая фанэманальная прадукцыя парадаксальнага «рукапіснага друку» дэманстравалася й перад тымі дзейнікамі, ад якіх залежала справа дазволу на выданьне нашае беларускае газэты. Дэманстравалася маўкліва, без камэнтараў — усё гаварыла само сабе й за тую справу. Праўда, маўклівай часам бывае й англасаская ўдача, і незаўсёды адразу зраджвае свае запраўдныя ўражаньні й пачуцьці. Адно факт, што якраз на гэтай дэманстрацыі справа ліцэнзіяў на газэту й часапіс пайшла куды гладзей, бадай ці ня мінуўшы якраз тады свой пераломны пункт . . .

«Рукапісны друк» бясспрэчна заляжа ў музэі, як адзін із цікавейшых экспанатаў нашае нядолі й адначасна — нязломнае волі да долі, рэалізаванай у упорыстай і самаахвярнай ды здольнай працы. Але некалі па гарадох нашае Бацькаўшчыны, побач із традыцыйнымі ў цэлым сьвеце помнікамі «няведамаму жаўнеру», трэ было-б ставіць і манумэнты «нязнанаму працаўніку культуры». Бо колькі-ж іх гэткіх, нязнаных і няведамых, было, ёсьць і пэўна будзе яшчэ ў нас — у тых ліку й тых, што сьведама пнуцца да ведамасьці й славы, а жывуць толькі тым, каб рабіць і зрабіць. Колькі іх, «невядомых, няпрызнаных, неапляканых нікім», і тых, што навет так і жадаюць «прайсьці свой бег, прамарнавацца і невядомымі застацца». Ціж не належылася-б ім хоць такая агульная бязыменная слава і ўспамін, безь нямілага ім асабістага вырозьненьня й гоману?

А пакуль — да такіх запраўдных герояў працы й культуры — кажучы словамі аднаго із старых нашых рукапісаў — «міласьць у нутрах сваіх уфундуем».

**Іван Спадзявайла.**

---

**Ад Рэдакцыі:** Рэдакцыі таксама хочацца на гэтым месцы прывітаць і выказаць сваё прызнаньне тварцом і працаўніком «рукапіснае прэсы», якую нашая газэта разглядае, як простую сваю папярэдніцу. У будучыні ад часу да часу мы будзем даваць перадрукі цікавейшых матар'ялаў з тае прэсы, каб пазнаёміць зь імі шырэйшыя колы нашага чытацтва і наагул трывалей замацаваць у форме «запраўднага» й шматтыражнага друку.

## ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ЗА БЕЛАРУСЬ У АМЭРЫКАНСКАЙ ЗОНЕ

Ідучы за прыгожай ініцыятывай беларускіх сьвятароў, якія правялі ўжо ў Францыі і ў ангельскай зоне Нямеччыны «Тыдзень малітвы за Беларусь» — нашая грамадзкасьць амэрыканскае зоны праводзіць такі самы тыдзень, прысьвечаны малітве за наш Родны Край, у днёх ад 27 лістапада да 4 сьнежня сёлета. Гэтым усе беларускія сьвятары й вернікі бяз розьніцы веравызнаньня заклікаюцца ўзяць удзел у арганізацыі ў гэных днёх набажэнстваў ува ўсіх лягерах і беларускіх групах, дзе-б яны не знаходзіліся. Хай на гэтыя дні заціхнуць усе малыя й вялікія спрэчкі ды нязгоды, а паплыве да Усемагутнага ціхая й сардэчная малітва за Край наш і тых, што церпяць у Ім і за Яго.

Паведамляецца, што ў лягеры Остэргофэн адпаведнае набажэнства адбудзецца ў дні 27 лістапада, у лягеры Віндышбэргердорф — 28 лістапада і ў Мюнхэне — 30 лістапада а гадз. 11-й у царкве «Пасыёністэн кірхэ» — Пасынг (даезд цягнікам із галоўнага вакзалу, або трамваем № 19). Усе нашыя культурна-грамадзкія арганізацыі ды ўстановы павінны падтрымаць гэтую ініцыятыву й памагчы ў правядзеньні яе.

## НОВАЯ ПЕРАРЭГІСТРАЦЫЯ ПЕРАМЯШЧЭНЦАЎ — ДП

Ува ўсіх лягерах перамяшчэнцаў — ДП цэлае амэрыканскае зоны Нямеччыны пачынаецца перарэгістрацыя ўсіх ДП, што знаходзяцца на ўтрыманьні ІРО.

Новая перарэгістрацыя вызначыць тых перамяшчэнцаў, што патрабуюць і надалей памогі ІРО і адначасна зьбяруць дакладныя статыстычныя інфармацыі «дзеля разумнага разьвязаньня праблемы перамяшчэнцаў і ўцекачоў» . . .

Новыя фармуляры перарэгістрацыі зьмяшчаюць таксама пытаньні, адказы на якія павінны даць інфармацыі, патрэбныя замежным урадам дзеля асяленьня перамяшчэнцаў у іншых краёх.

У выпадках, калі перамяшчэнцам будзе прызнаная памога ІРО на далейшы час, рэгістрацыйныя камісіі будуць абмяркоўваць з галовамі сем'яў пытаньне іхнае рэпатрыяцыі ці перасяленьня. У выпадках, калі будзе ўстаноўлена, што перамяшчэнцы не адпавядаюць для далейшае памогі ім, яны будуць улучацца ў нямецкую гаспадарку. Новая перарэгістрацыя праводзіцца ў кажным лягеры «Вэльфар — афіцэрам» адпаведнага «Арэа — Тыму».

Прадугледжваюцца апэляцыйныя інстанцыі дзеля выясьненьня спрэчных выпадкаў.

(Інфармацыйная Служба ІРО)

## У МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ Д. П. І ЎЦЕКАЧОЎ

14 кастрычніка сёлета адбылося ў Аўгсбургу чарговае паседжаньне пашыранага сакратарыяту Міжнацыянальнага Бюра Паразуменьня, якое афіцыйна носіць назоў «Міжнацыянальнага Камітэту ДП і ўцекачоў у Нямеччыне». У гэты Камітэт уваходзяць наступныя нацыянальнасьці: Украінцы, Беларусы, Палякі, балтыцкія народы, Славакі, Югаславы, Грузіны, Туркестанцы, Казакі й народы паўночнага Каўказу.

Дагэтуль Камітэт стварыў свае аддзелы ў Рэгенсбургу, Мюнхэне, Франкфурце. Запачаткавана ўтварэньне аддзелаў у Аўгсбургу й Штутгарце. З аддзелаў-філіяў найбольш актыўная рэгензбурская філія, якая паўстала 14. 7. 1947. Яе запачаткавалі Беларусы, Украінцы, Казакі й Палякі, пасьля дайшлі Латышы, Летувісы й Славакі. У гэтай філіі адбыта сем пленарных паседжаньняў і створаныя арганізацыйны, культурна-асьветны й праўны рэфэраты. Дырэктар мясцовае ІРО прыняў да ведама ўтварэньне філіі й дапусьціў яе да дзеяньня.

Міжнацыянальны Камітэт мае на мэце скаардынаваньне працы паасобных нацыянальных камітэтаў. Кадэнцыя дагэтулешняга ягонага кіраўніцтва канчаецца ў гэтым месяцы. У канцы маецца адбыцца ў Мюнхэне пленум дзеля перавыбараў рэфэрэнтаў і генэральнага сакратара Камітэту. Паасобныя камісіі, як арганізацыйная, культурна-асьветная, праўная, эміграцыйная, жаноцкая, студэнцкая й спартовая; маюць адбыць свае паседжаньні ў дзень перавыбараў дзеля апрацаваньня пляну працы на наступны пэрыяд часу. Пасьля перавыбараў кіраўніцтва Камітэту адбудзецца ўрачыстая акадэмія й канцэрт, у якім возьмуць удзел мастацкія сілы паасобных нацыянальнасьцяў.

М. К.

# ПА НАШЫХ КУТКОХ

## БЕЛАРУСКІ ТЭАТР ЭСТРАДЫ — У АНГЕЛЬСКАЙ ЗОНЕ

**У жніўні сёлета Беларускі Тэатр Эстрады выехаў у ангельскую зону. Ужо два гады тут чакалі на нас, дый самі мы даўно хацелі й дакляравалі прыехаць, але тыя ці іншыя перашкоды не давалі.**

Першым пунктам нашага падарожжа быў беларускі лягер у Ватэнштэце (каля Браўншвайгу). **У самым лягеры трупа дала 5 выступаў,** апроч таго, брала ўдзел у мастацкай частцы зон нага зьезду, а таксама ў мясцовай жывой газэце. Кажны выступ ператвараўся ў нацыянальнае сьвята. Артыстыя запрашаліся ўсімі, кажная хата з радасьцяй хацела іх бачыць і вітаць.

Зрабіўшы Ватэнштэт сваёю базаю, тэатр пачаў ладзіць выступы па акрузе ў украінскіх, польскіх і мяшаных лягерах. Гралі штодня і заўсёды бачылі шмат ахвотнікаў зь беларускага лягеру, што падарожнічалі з трупаю, не прапушчаючы ніводнага паказу. Цікава зацеміць, што прадстаўнікі ангельскае ўлады, што былі на першых выступах, таксама ператварыліся ў сталых спадарожнікаў тэатру. Ад раньня яны тэлефанічна запытвалі, дзе грае тэатр, а ўвечары колькі аўтаў ужо спыняліся перад будынкамі тэатраў. Кампліманты сыпаліся на трупу, як балёвыя канфэці.

Шмат беларускіх прадстаўнікоў запрашалі нас да сябе пасьля Ватэнштэту, і здарылася нечакана так, што тэатр апынуўся аж на самым ускраі Нямеччыны, у колькіх кілёмэтрах ад данскае мяжы, на моры. Цікавая й прыгожая прырода абкружала нас. Фленсбург, Майервік, Кіль, Нойштат сталіся месцамі выступаў беларускага тэатру, і ўва ўсіх лягерах, апрача агульнага задавальненьня паказамі, мы сустракалі родныя словы сваіх суродзічаў, што жывуць там сярод палякоў, украінцаў і іншых нацыянальнасьцяў.

За прыклад дасягу беларускага мастацтва можа быць даволі цікавы выпадак у вялікім лягеры Нойштат, дзе ёсьць вельмі строгі й халодны камандант — ангелец. Ён не хадзіў ніколі на лягерныя імпрэзы, і больш за адзін дзень не дазваляў трупам выступаць. На наш канцэрт гэты камандант прыйшоў, трэба думаць, прачытаўшы добрую рэцэнзію ангельскага афіцэрскага клюбу ў Браўншвайгу, дзе тэатр выступаў. Сеў ён у сваё крэсла паважны й недаверлівы. Але з кажным нумарам праграмы твар каманданта зьмяняўся. Спачатку ўсьмешка, а тады й сама шчыры сьмех. Рукі ягоныя не пераставалі пляскаць. Ён ужо сам прасіў тэатр не пакідаць яго так хутка, і ўсе тры вечары за пятнаццаць часінаў да пачатку сядзеў ужо ў сваім крэсьле. Разьвіталіся мы зь ім найлепшымі сябрамі.

Тэатр пачаў атрымваць гэтульні запросінаў, што яны паламалі ўвесь раней назначаны плян падарожжа. Трупа дала 25 паказаў за месяц, але й на чвэрць не зрабіла таго, што жадалася, а «хата» клікала назад. У кастрычніку мы былі ўжо на сваіх месцах. Падарожжам наагул усе задаволеныя, хаця дарога была вельмі цяжкой. У ангельскай зоне засталося шмат надзеяў, якія тэатр уважае за свой абавязак выканаць. Таму цяпер робіцца кароткі адпачынак, а там ізноў ужо другое падарожжа ў ангельскую зону. Тут мы думаем зрабіць і новую праграму і дадатковыя новыя нумары да канцэртных выступаў, каб у зімовым часе абслугоўваць цікавей і амэрыканскую зону. Такім парадкам тэатр будзе мець 4 зусім розныя праграмы і ладную колькасьць канцэртных нумароў, і гэта ўжо салідна, а паводля эміграцыйнага жыцьця навет можа быць за прыклад іншым трупам.

**М. Куліковіч.**

## ДА РОДНАЕ МОВЫ

Наш лягер Віндышбэргердорф новы. Ён паўстаў у траўні месяцы сёлета зь дзьвюх групаў — Ашафэсбургскай і Вільдфлекенскай, якія вылучыліся зь лягераў польскіх, украінскіх і іншых.

Перад лягернай адміністрацыяй паўстала задача ўзнавіць беларускае нацыянальнае й культурнае жыцьцё, адчыніць беларускую школу. Цяпер гэтая задача разьвязаная. Ад 15 жніўня працуе пачатковая школа.

Спачатку, як толькі школа адчынілася, некаторыя бацькі (праўда, адзінкі) заяўлялі: «Вучыць дзяцей у беларускай мове? Ды гэта-ж калецтва. Тры гады дзіця вучылася папольску, ды яно-ж цяпер ня будзе ведаць ніякай мовы...» Але ўжо за паўмесяца на бацькаўскім сходзе ўсе, як адзін, з задаваленьнем адзначалі, што пераход на нашую родную мову адбыўся вельмі лёгка.

Наагул, трэба сказаць, што навет тыя, хто хацеў-бы калечыць сваіх дзяцей, прышчапляючы ім чужую, польскую мову, гаворыць папольску з акцэнтам, які адразу-ж паказвае, што чалавек гэты беларус. І дома гавораць яны ў роднай мове, а на людзях упорыста трымаюцца пальшчыні. Гэта ўсё яшчэ фальшывыя тэндэнцыі: беларуская мова «мужыцкая», а польская «панская». Сорам! Чалавек такі нагадвае таго, хто саромеўся-б свае роднае маткі.

М. Л.

## ПРАФЭСІЙНЫЯ КУРСЫ

Ад 13 верасьня сёлета ў лягеры Віндышбэргэрдорф працуюць курсы-майстроўні краўчыхаў і шаўчыхаў, на якіх вучыцца 35 жанчынаў. Па сканчэньні іх кажная курсантка атрымае атэстат, які дапаможа ёй знайсьці працу ў тым краі, куды яна выедзе. У бліжэйшым часе плянуецца стварыць курсы шофэраў, земляробаў і элэктраманцёраў.

## У ЛЯГЕРЫ ВІНДЫШБЭРГЕРДОРФ РЫХТУЮЦЦА ДА НАЦЫЯНАЛЬНАГА СЬВЯТА

Тут створанае Т-ва Беларускіх Вэтэранаў Вайны. Гэтае Т-ва ўзяло на сябе ініцыятыву абыходжаньня нацыянальнага сьвята «Слуцкага паўстаньня». Выбраны камітэт, які ўжо рыхтуецца да наладжаньня сьвяткаваньня.

## СПАРТОВАЯ ПЕРАМОГА БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ

У кастрычніку штогоду Міжнародная Скаўцкая Асацыяцыя ў Рэгенсбургу ладзіць акруговыя скаўцкія спартакіяды. За першыя два гады беларускія скаўты занялі колькі першых і другіх месцаў, за што атрымалі пахвальныя дыплёмы.

Сёлета ў спаборніцтвах бралі ўдзел каманды беларускіх, украінскіх, латыскіх і расейскіх скаўтаў, кажная па 8 спартоўцаў. Каманда беларускіх скаўтаў — вучняў Беларуское Гімназіі імя Янкі Купалы заваявала ў спаборніцтве першае месца, за што й атрымала 6 дыплёмаў: 3 дыплёмы за першыя месцы й 3 — за другія. Асабліва добрыя вынікі паказалі скаўты Пагуда Хведар, Каранеўскі Міхась і Заруцкі Янка.

Спаборніцтвы выявілі добрую арганізацыю спартовае справы сярод нашых скаўтаў-гімназістых, у чым найбольшая заслуга штабу штандару «Баварыя» й настаўніка фізычнае культуры сп. Я. Мухі.

## «ГОЛАС БЕЛАРУСОЎ»

Ад чырвеня месяца сёлета выходзіць орган Беларусаў у Шлезьвіг-Гольштайне «Голас Беларусоў» (на рататары). У польскіх лягерах ДП гэнае акругі — ад 10 да 30% беларусаў. Ад пачатку сёлетняга году разгортваецца справа вызваленьня з гэтых лягераў беларусаў і украінцаў.

Алесь Салавей

## СЬПІ...

Ты адзін — усё-усенькае:
радасьць, мукаў забыцьцё.
Немаўлё маё маленькае,
найсьвятлейшае жыцьцё.

Сьпі, мой сынку... Аргентынаю
не зьлякае сябра-сон,
нешчасьліваю гадзінаю
пад табой ня дзынкне ён.

Гаварыць пачнеш — часінкай той
зможаш праўду сна ўяўляць.
Кажны рух твой новы, сынку мой,
будзе родным прамаўляць;

ня ўсьміхнецца ні Бразыліі,
ні Аляскі, ні Канго...
Станьце-ж, станьце, сны, ідыліяй
непадкупнага, свайго.

Не крануць хай слыху ценькага
словы: Пэру, Парагвай,
і няхай у снох маленькага
ажыве бацькоўскі край.

На чужыне, 1946.

## БЕЛАРУСЫ Ў АРГЕНТЫНЕ

Як даведваемся з аднаго зь лістоў, пададзеных у № 7 бюлетэню Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі «На Шляху», у Аргентыне цяпер «няма ніякае нацыянальнае беларускае арганізацыі. Ёсьць арганізацыя пад назовам «Беларускі Клюб», але там нічога нацыянальнага няма, усё зрусыфікаванае. Газэту выдаюць пад назовам «Наш Голас» і кажуць, што яна беларуская. Запраўды выпушчаюць яе для беларусаў і расейцаў і то ў расейскай мове... Што да свабоды слова, то тут раздольле. Газэты усялякага роду, чырвоныя, зялёныя й шмат іншых. Кажная арганізацыя выдае свае часапісы. Украінцы маюць свае арганізацыі правыя й левыя, і таксама палякі, а беларусы — толькі левыя»...

## У КАНАДЗЕ ПАЧЫНАЮЦЬ ГУРТАВАЦЦА

Як відаць із таго-ж № 7 «На Шляху» (вялікі артыкул Міхася Козыра — «Весткі з краіны «кляновае лісьцінкі»), у Канадзе таксама бальшыня нашых суродзічаў зь перадваеннае эміграцыі запаветрала савецкафільствам і навет імкнецца вырвацца зь «пекла эксплёатацыі» Канады ў «рай сацыялістычнае бацькаўшчыны». Але пачынаюць гуртавацца й сьведамыя нацыянальныя сілы. Цэнтрам такога гуртаваньня сталася нядаўны наш эмігрант із Францыі Кастусь Акула. Перадаём і мы паданы ім самым свой адрыс: Akula Kastus c/o Norman Hammend, Harmony Road North, Oshawa, Ontario, Canada.

## І ШАНХАЙ — «ЗЬ ПЕКЛА — Ў РАЙ»

Карэспандэнт «На Шляху» із Шанхаю, паведамляючы пра страшэнную гарачыню там, падаець сёе-тое й пра тэмпэратуру, сказаць-бы, «грамадкага клімату»: «Людзі бягуць ад добрага клімату й «ад добрых спраў», хто куды можа. Выехала ўжо некалькі тысяч і яшчэ на чарзе каля 5 тысяч, гэта ўсё славяне. Усе яны едуць (здурэўшы) у Савецкую Расею (вынятак становіць невялікі працэнт). З арганізаваньнем гуртка пакуль што нічога ня выйдзе»...

## УМОВЫ ПЕРАДПЛАТЫ НА ГАЗЭТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Перадплата на газэту «Бацькаўшчына» прыймаецца **ня менш як на 5 адзін па адным наступных нумароў** за агульную суму **5 марак.** На большую за 5 адзін па адным наступных нумароў колькасьць — **з разьліку па 1 марцы за кажны нумар.** Просіцца падаваць, ад якога нумару жадаецца перадплаціць газэту й на колькі адзін па адным наступных нумароў.

**Адміністрацыя.**

# ШУКАЮЦЬ ...

Кошт абвесткі — па аднэй марцы за кажнае паасобнае слова. Аплата наперад.

**Караленку** Міколу з жонкай Ядзьвігай і дачушкай Славай — кумы й сябры. Усіх, хто ведаў-бы пра іхнае месцазнаходжаньне — просьба паведаміць на адрыс рэдакцыі «Бацькаўшчыны».

Бацькоў **Рыбнікава** Ціхана й Параскоўю, брата з братавою, — **Рыбнікава** Васіля й Сафею, сястру **Рыбнікаву** Кацярыну, братоў — **Рыбнікава** Іпата й Ліфера (усе з Браслаўшчыны) — Рыбнікаў Лявон. Весткі — на рэдакцыю «Бацькаўшчыны».

**Лазара** Ўладзімера, **Храноўскага** Івана — із Слоніма, апошнім часам былі ў Гамбургу — Лазар Уладзімер. Весткі — на рэдакцыю «Бацькаўшчыны».

**Янчука** Грыгора — дваюродны брат Янчук Васіль. Весткі — на рэдакцыю «Бацькаўшчыны»

Прапановы — пісьмова на адрыс рэдакцыі.

Сыноў **Пэнда** Мячыслава й Аляксандра і **Рокача** Мірона — **Пэнда** Мікалай. Весткі — на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».



Whiteruthenian Newspaper „The Fatherland"
Authorized by Headquarters European Command Civil Affairs Division A P O 757, A. G. 383, 7 GEC-AGD, from October 1947.
Administration - (13 b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.
Printed by: Fr. Ant. Niedermayr, Regensburg; Marschallstr. 1